# ЗДРАДА

СПЭЦЫЯЛЬНЫ ВЫПУСК ГАЗЭТЫ Навіны Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»

Красавік 1993 г. Кошт 5 рублёў

## ШТО КАЗАЛА АПАЗЫЦЫЯ БНФ

**Паводле скарочанай стэнаграмы XI нечарговай сэсіі ВС**

### ЗЯНОН ПАЗЬНЯК

**Ангарская выбарчая акруга №9**

Спадары дэпутаты!

Ня можа не выклікаць зьдзіўленьня тая пасьлядоўнасьць і тая частотнасьць, зь якой у вапошні час узьнікае ў Вярхоўным Савеце пытаньне аб скасаваньні нашага канстытуцыйнага палажэньня аб імкненьні да нэўтралітэту і бязьядзернай дзяржавы. Імкнуцца зьнішчыць гарантыю нашага незалежнага мірнага міжнароднага існаваньня. Больш таго, стараюцца зьнішчыць асновы нашай дзяржаўнасьці і культурнага разьвіцьця, грамадзянства Рэспублікі Беларусі і дзяржаўнасьць беларускай мовы. Прыдумваюцца розныя міты накшталт пагрозы Беларусі з боку НАТО ці немагчымасьці эканамічных дачыненьняў з Расеяй без ваеннага саюзу, дагавору аб калектыўнай бясьпецы.

У чым жа прычына? Хто зацікаўлены ў такой палітыцы, адкуль яна зыходзіць? Што датычыць Старшыні Савету Міністраў, які адказны за правал рынкавых рэформаў і тупіковы стан эканомікі, – тут усё зразумела. Прыдумваецца чарговая дымавая заслона, каб пазьбегнуць адказнасьці.

А вось пазыцыя ўраду Расеі, выказаная 30 сакавіка віцэ-прэм'ерам А.Шохіным на прэс-канфэрэнцыі: "Мы не ставим вопрос об экономическом союзе – это инициатива Беларуси и Казахстана"... І далей: "Мы переходим со всеми странами СНГ на нормальные торгово-экономические отношения как со странами дальнего зарубежья. России это выгодно экономически". І далей зноў пра калектыўную бясьпеку: "Я впервые слышу такое настойчивое предложение с вашей стороны".

Як бачым, пазыцыя ясна акрэсьленая. Тады, можа, без ваеннага дагавору ня можа існаваць на Беларусі былы савецкі вайскова-прамысловы комплекс? Яны тут выступалі і казалі – ня можам, маўляў, без ваеннага саюзу, няма заказаў, заводы спыняцца.

Але адгорнем дагавор паміж Беларусяй і Расеяй "Аб каардынацыі дзейнасьці ў ваеннай галіне", падпісаны спадаром Кебічам 20 ліпеня 1992 г. і ратыфікаваны Вярхоўным Саветам Беларусі. У арт. 5 напісана: "Бакі забясьпечваюць разьмяшчэньне заказаў Міністэрстваў абароны бакоў на заводах прамысловасьці і прадугледжваюць меры па іх выкананьні".

Дык чаго ж вам яшчэ трэба, спадары камісары ВПК? Чаму вакол усе гавораць няпраўду? У чым рэч? Тым больш што вайскова-прамысловы комплекс Расеі ня ў меншай ступені залежыць ад нашых вытворцаў (больш чым на 60%). А падводныя лодкі, расейскі флёт амаль цалкам залежыць ад многіх нашых паставак.

Рэч у тым, што беларускія намэнклятурныя артадоксы зрабілі стаўку на авантурныя сілы Расеі, якія імкнуцца адрадзіць КПСС, Савецкі Саюз, халодную вайну, савецкую таталітарную сыстэму. І спадзяюцца на пэўныя колы старадумнай расейскай ваеншчыны, якая не хавае сваіх намераў.

Тым часам сытуацыя ў расейскіх узброеных сілах катастрафічная. Армія не ўкамплектаваная. Гэтай вясной у Расеі, па афіцыйных зьвестках, змогуць набраць толькі 16% прызыўнікоў. Міністар абароны Расеі П.Грачоў гаворыць: "Если дело так пойдет и дальше, то к 1995 году российских войск в "горячих точках" просто не будет. Пусть тогда политики думают, как обеспечить стратегические интересы России".

Ва ўсёй кампаніі з калектыўнай бясьпекай і з ваенным дагаворам у расейскай ваеншчыны, акрамя геапалітычнага, ёсьць трывіяльны інтарэс – гэта інтарэс гарматнага мяса для "горячих точек" і "статегических интересов России". Гэты інтарэс спрабуюць закамуфляваць за нейкімі агаворкамі, абяцаньнямі для прасьцячкоў аб непасыланьні салдат за межы Беларусі і да т.п. – прыём непрыстойны і ашуканцкі. Зразумела, што як толькі нашай краінай будзе заключаны ваенны дагавор аб калектыўнай бясьпецы з краінамі СНД (Арменіяй, Казахстанам, Кыргызстанам, Расеяй, Таджыкістанам, Узбэкістанам), нашыя грамадзяне апынуцца ў "гарачых кропках".

За што вы, кіруючая большасьць у Вярхоўным Савеце, хочаце зноў праліваць беларускую кроў? За чыю выгаду? Хіба Беларусь мае стратэгічныя інтарэсы у Азіі, на Каўказе, на таджыцка-аўганскай мяжы? Куды вы штурхаеце наш народ? Нам трэба мець тавары, працу, сацыяльныя гарантыі, свабоду, жыць і працаваць на сваёй зямлі! У нас няма стратэгічных інтарэсаў ні ў Азіі, ні ў Расеі. І ня трэба ўцягваць нашу краіну ў чужыя камуністычныя авантуры.

Падпісаўшы дагавор аб калектыўнай бясьпецы, мы павінны будзем выконваць яго яшчэ да ратыфікацыі. Гэта міжнародныя нормы, і гэта элемэнтарна. Больш таго, тут спасылаліся на ўнутранае заканадаўства, якім, спадзяюцца, будуць кіравацца. Нічога падобнага. Міжнародныя законы, міжнародныя дагаворы маюць прыярытэт у такіх адносінах. Тым больш, што згодна таму ж артыкулу 6-му вырашаць будуць кіраўнікі дзяржаваў – пасылаць ці не пасылаць войскі ў тую ці іншую "кропку". Гэта значыць, што ў нашай дзяржавы будзе толькі адзін голас. Я ўжо не кажу пра тое, што будзе Галоўнакамандуючы Ўзброенымі Сіламі.

Існуе прысяга, існуе прызыў. І хто будзе адказваць, калі нашыя салдаты, нашыя грамадзяне загінуць дзе-небудзь у Абхазіі? Эрых Хонэкер ці Леанід Ільіч Брэжнеў, які падпісаў рашэньне Палітбюро і накіраваў салдат у Аўганістан? А адказнасьць павінна быць канкрэтнай, і адказваць будуць, безумоўна, тыя палітыкі, якія гэтае рашэньне прымаюць.

Цяпер паглядзім на геапалітычную сытуацыю. Уявім, што Беларусь адмовілася ад нэўтралітэту і заключыла ваенны дагавор з Расеяй. А як да гэтага паставіцца Ўкраіна? Як паставяцца нашыя суседзі? Можа, незразумела, які ўсталюецца рэжым на межах зь імі? Можа, незразумела, зь якога моманту пачнецца інкарпарацыя тэрыторыі Беларусі ў сфэру палітычнага распараджэньня Расеі? Мы станем тэрыторыяй супрацьстаяньня.

Тут гаварылася, што дэпутаты камуністычнай большасьці вельмі любяць ездзіць у НАТО. Я растлумачу, чаму яны любяць туды езьдзіць. Я там быў і таксама размаўляў з натаўскай бюракратыяй. Яна зацікаўлена ў тым, каб утвараўся такі саюз. Яна зацікаўлена ў супрацьстаяньні, таму што НАТО няма чаго рабіць, калі скончацца канфлікты ў Босьніі і Герцагавіне. Тады ў іх ізноў узьнікнуць праблемы. Справа ня ў тым, што сама НАТО зацікаўлена ў нашым ваенным дагаворы з Расеяй. НАТО ніколі такога ня скажа адкрыта. А вось натаўская бюракратыя зацікаўленая. Ня дзіва, што вы знайшлі агульныя інтарэсы.

А як паставіцца да адмаўленьня Беларусі ад сваіх нэўтральных прынцыпаў Эўропа, міжнародная супольнасьць? Здрада нэўтралітэту аўтаматычна пацягне за сабой зьнікненьне бязьядзернага статусу. Няўжо гэта незразумела? Якую ж тады пэрспэктыву нашай дзяржаве рыхтуюць спадары змоўшчыкі? А гэта сапраўды змова, змова супраць Беларусі.

Тут спадар Кебіч грымеў філіпікамі ў адрас Беларускага Народнага Фронту. Маўляў, і ўрад крытыкуюць, і ў эканоміцы не разьбіраюцца. Наконт "разьбіраньня ў эканоміцы" Вам, шаноўны Старшыня Савету Міністраў, лепш было б памаўчаць. Вынікі Вашага разуменьня эканомікі відавочныя. Наша насельніцтва ўжо чэрпае з гэтых вынікаў поўнай чашай. У Вас няма нават ніякай праграмы, пляну, ніякай эканамічнай канцэпцыі, ніякага здаровага сэнсу. Вы не прыслухаліся ні да адной разумнай парады, якія Вам казалі. Дарэчы, усе эканамічныя прагнозы Апазыцыі БНФ спраўдзіліся. Усе псэўдапачынаньні ўраду праваліліся. Гэта ж факт.

Імклівае падзеньне пачалося з 1992 году, калі Ваша палітычная бязьдзейнасьць уцягнула нас у шалёную інфляцыю. Я памятаю, як ліха выступалі Вы тады ў парляманце пад гром апладысмэнтаў. І што ж цяпер? Гэта Вы, спадар Кебіч, Вашай бяздумнай эканамічнай палітыкай паспрыялі ператварэньню ў пыл грашовых укладаў насельніцтва, што адным махам кінула наш народ у нястачу. А цяпер Вы адшпільваеце падачкі пэнсіянэрам – праезд бясплатны, 300 рублёў на беднасьць. Усё гэта зараз дапаможа, як мёртваму прыпарка.

Так, Вы зразумелі, што зайшлі у тупік. Але мяне зьдзіўляе ня столькі Вашая ўпартасьць не прызнаваць гэтага, колькі гатоўнасьць дзеля свайго выратаваньня ахвяравацца нашымі важнейшымі палітычнымі каштоўнасьцямі: нэўтралітэтам, бязьядзернасьцю, а ў выніку сувэрэнітэтам і жыцьцямі людзей.

Беларусі не патрэбны ніякі ваенны саюз, ніякі дагавор пра калектыўную бясьпеку. Ня трэба ўступаць ні ў які ваенны блёк. Само геапалітычнае разьмяшчэньне нашае краіны ў цэнтры Эўропы, паміж Усходам і Захадам, прымушае нас трымацца нэўтралітэту. Гэта – гарантыя спакою, стабільнасьці для народу Беларусі. Нэўтралітэт ужо апраўдаў сябе. Нельга ў чарговы раз паддавацца на камуністычную авантуру. Гэтыя авантуры нічога не прыносілі нашаму народу, акрамя праліцьця крыві, зьнішчэньня, разбурэньня і зьнявагі нас як народу. Пра гэта трэба памятаць і не забываць.

8 красавіка 1993 г.




*Малюнак Кастуся Кіпеня*

### ВАЛЯНЦІН ГОЛУБЕЎ

**Алібегаўская выбарчая акруга №15**

Добра, што вы далі выступіць тым чыноўнікам, якіх абрала большасьць, якія маюць пэўны вопыт ідэялягічнай працы ці то ва Ўзброеных сілах, ці ў гаркамах партыі і змаглі паказаць, як выкарыстоўваюць тое, што набылі раней. Міністар абароны спрабаваў тут пры трансьляцыі на ўсю Рэспубліку падмяніць адно паняцьце другім, тое самае рабіў некалькі разоў і міністар замежных справаў. Рэспубліка Беларусь, зрабіўшы выбар у карысьць нэўтральнасьці і дзяржаўнасьці, засьведчыла ў свой час усяму сьвету, што яна сама з таго дня будзе займацца вызначэньнем сваёй унутранай і зьнешняй палітыкі.

Шаноўны спадар Краўчанка! Ідэя нэўтралітэту і бязьядзернасьці была прадэклявавана ў Дэкларацыі. Потым яна была засьведчаная ў вашых выступленьнях у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і ўспрынятая міжнароднай супольнасьцю. А ўжо пры распрацоўцы ваеннай дактрыны, заключэньні Дагавору аб ваенных сувязях з Расейскай Фэдэрацыяй, дагавору з Рэспублікай Польшчай яна была праведзеная ў жыцьцё. У чым жа сутнасьць нэўтралітэту Рэспублікі Беларусі, абвешчанага як пастаянная лінія дзяржавы? Пастаянны нэўтралітэт – гэта міжнародна-праўнае становішча дзяржавы, якая ці праз аднабаковае выяўленьне, ці праз замацаваньне ў міжнародных дагаворах бярэ на сябе пэўныя абавязкі:

1. Ня ўдзельнічаць у любых войнах.

2. Ужываць сілу толькі ў выпадку абароны ад агрэсіі, а ў мірны час праводзіць палітыку, што не дае ўцягваць яе ў вайну. Не ўступаць ні ў якія вайсковыя саюзы.

Сп. Шушкевіч і сп. Ельцын падпісалі сумесную заяву пры абмене граматамі аб ратыфікацыі Дагавору паміж Беларусьсю і Расеяй, дзе было запісана: Расея прызнае, што Беларусь ставіць сабе мэту зрабіць сваю тэрыторыю бязьядзернаю зонаю, а Рэспубліку – нэўтральнаю дзяржаваю. Падпісаньне гэтага дагавору само па сабе не выклікае ўключэньня ў сумесныя сыстэмы бясьпекі, акрамя таго, пункт 10 камюніке па выніках дагавораў паміж афіцыйнымі дэлегацыямі Беларусі і Расеі ад 7 сьнежня 1991 году гаворыць, што Рэспубліка Беларусь і РФ "будут тесно сотрудничать в области обороны и прежде всего в обеспечении функционирования ныне существующего общего военно-стратегического пространства на их территориях на переходный период впредь до приобретения Республикой Беларусь статуса безъядерного нейтрального государства, а также будут взаимодействовать в рамках общих для них систем коллективной безопасности, что само по себе не создаёт для них обязательств по формированию военных союзов с их участием. Такое сотрудничество будет основано на безусловном уважении твёрдого намерения Республики Беларусь стать нейтральным государством".

Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусі для таго, каб быць пасьлядоўным, неабходна аднachасова з пытаньнем аб далучэньні да Дагавору аб калектыўнай бясьпецы разглядаць і пытаньне аб адкліканьні толькі што прынятага рашэньня аб ратыфікацыі дагавору з Расеяй, паколькі апошні не падлягае ніякім зьменам.

Яшчэ. Гаварылі, што гэта – дапамога ваенна-прамысловаму комплексу. Так, Расеі зараз невыгодна пазбаўляцца таго, што ёсьць у нашым ваенна-прамысловым комплексе. Расеі вельмі выгодна выкарыстоўваць пастаўкі зь Беларусі па нізкіх цэнах. Але гэта робіцца толькі для таго, каб Расея магла атрымаць пэўную перадышку для стварэньня на сваёй тэрыторыі вытворчасьцяў, якія зараз знаходзяцца за яе межамі. Але, выбачайце, як толькі яны будуць створаны, нашая "абаронка" будзе кінутая зноў на дно, будзе яшчэ на глыбейшым дне, чым зараз.

Пасьля таго як мы заявілі на ўвесь сьвет, што мы будзем нэўтральнай і бязьядзернай дзяржаваю, зараз нам рабіць іншы крок – значыць прывесьці толькі да аднаго: увесь сьвет зразумее непрадказальнасьць палітыкі Рэспублікі Беларусі, увесь сьвет зразумее, што гэтая дзяржава, толькі паспрабаваўшы стаць незалежнаю, зноў адмаўляецца ад сваёй незалежнасьці і падпадае пад уплыў іншай, моцнай у вайсковым сэнсе дзяржавы.

Вы што, думаеце, што Расея адмовіцца ад магчымасьці разьмяшчаць на тэрыторыі Беларусі свае ядзерныя сілы? Несумненна, што яны тут будуць разьмешчаны, і гэта будзе выкарыстана. Але як гэта ацэніць міжнародная супольнасьць? Як на гэта паглядзіць наш другі славянскі сусед, наша блізкая Ўкраіна? Што ж вы ўсе гаворыце пра Расею, а ня думаеце пра такі славянскі народ – Украіну, чаму пра гэта ніхто не сказаў? Што мы, будзем вымушаць Украіну шукаць новыя хады, уступаць у НАТО? Прыяжджалі сюды некаторыя расейскія генэралы і гаварылі: "Калі мы заключым такі саюз, то Ўкраіна, магчыма, будзе нашым агульным ворагам". Дык куды ж нас цягнуць? Што ж гэта робіцца? (Шум у зале). Сапраўды, ганьба такой палітыцы, шаноўныя народныя дэпутаты.

Хачу сказаць шаноўным спадарам, якія гавораць, што гэта – дагавор аб калектыўнай бясьпецы, а не вайсковы дагавор. Дагавор, у якім ёсьць галоўнакамандуючы ўсімі ўзброенымі сіламі – гэта дагавор менавіта вайсковы.

І, шаноўны Пётр Кузьміч, вы павінны былі ведаць: праўкі ў тэкст можна ўносіць толькі пасьля ўступленьня дагавору ў сілу. Пра якія папраўкі вы гаворыце? Спачатку ўступіць, а потым гаварыць аб папраўках? Дык іх жа ніхто ня ўлічвае! Яны павінны ўносіцца кансэнсусам. Што ж вы не гаварылі пра гэта?

Дзякуй за ўвагу.

8 красавіка 1993 г.

# ЗАПОМНІМ ІХ ПАЙМЕННА




**Абухаў Аляксандар Іванавіч** – былы старшыня Хойніцкага райвыканкаму;
**Авечкін Аляксандар Пятровіч** – Беларускае таварыства вэтэранаў, Віцебск;
**Авін Іван Іванавіч** – сакратар Камісіі ВС (былы першы сакратар Лёзьненскага РК КПБ);
**Алешчанка Міхаіл Пятровіч** – старшыня Клімавіцкага райвыканкаму;
**Андрэенка Уладзімір Аляксандравіч** – сьлесар Калінкавіцкага рамонтна-мэханічнага заводу;
**Андрэйчанка Уладзімір Паўлавіч** – нам. старшыні Віцебскага аблвыканкаму (былы першы сакратар Верхнядзьвінскага РК КПБ);
**Анісенка Таццяна Міхайлаўна** – Беларускае таварыства глухіх, Віцебск;
**Антоненка Мікалай Ільіч** – Беларускае таварыства сьляпых, Бабруйск;
**Арцымена Дзьмітры Канстанцінавіч** – старшыня Горадзенскага аблвыканкаму;
**Бабарыкіна Ганна Іванаўна** – Беларускае таварыства вэтэранаў, Ашмяны;
**Бамбіза Іван Міхайлавіч** – сакратар Камісіі ВС (былы старшыня Рэчыцкага райвыканкаму);
**Балоцін Міхаіл Андрэевіч** – дырэктар Горадзенскага прадпрыемства мастацкіх вырабаў "Сузор'е";
**Бараноўскі Валерыян Уладзіміравіч** – галоўны доктар мэдсанчасткі Гомельскага хімзаводу;
**Бардоўскі Міхаіл Рыгоравіч** – Беларускае таварыства сьляпых, дырэктар прадпрыемства, Гомель;
**Барсукоў Сталій Якаўлевіч** – Беларускае таварыства сьляпых, ген. дырэктар аб'яднаньня, Горадня;
**Бачароў Яўген Міхайлавіч** – камандзір Віцебскай паветрана-дэсантнай дывізіі;
**Белы Аляксандар Леанідавіч** – старшыня калгаса "Слава працы" Дзятлаўскага раёну;
**Бойка Мікалай Іванавіч** – старшыня прафкаму Менскага мотавелазаводу;
**Борыс Васіль Іванавіч** – былы загадчык аддзелу ЦК КПБ;
**Боршч Аляксей Апанасавіч** – нам. старшыні Дзяржэканомпляну Беларусі;
**Бурачкоў Валянцін Фёдаравіч** – генэральны дырэктар аграгандлёвай фірмы "Вейна" Магілеўскага раёну;
**Вайцешык Анатоль Міхайлавіч** – старшыня АПК Берасьцейскага аблвыканкаму;
**Васілеўскі Міхаіл Уладзіміравіч** – старшыня Чашніцкага райвыканкаму;
**Васільеў Васіль Іванавіч** – дырэктар Лідзкай абутковай фабрыкі;
**Вашкевіч Іосіф Фёдаравіч** – нам. старшыні Камісіі ВС (былы першы сакратар Заводзкага РК КПБ Менска);
**Верабей Уладзімір Сцяпанавіч** – начальнік упраўленьня аховы здароўя Гомельскага аблвыканкаму;
**Веславухаў Міхаіл Мікалаевіч** – старшыня Аршанскага райвыканкаму;
**Вялічка Валянцін Уладзіміравіч** – старшыня Гомельскага абласнога аб'яднаньня прафсаюзаў Беларусі (былы сакратар Гомельскага абкаму КПБ);
**Вярцінскі Аляксандар Эдмундавіч** – нам. старшыні Смаргонскага гарвыканкаму;
**Гаркун Уладзімір Гіляравіч** – старшыня Камісіі ВС (былы першы сакратар Дзяржынскага гаркаму КПБ);
**Герасімаў Уладзімір Сяргеевіч** – былы першы сакратар Жыткавіцкага РК КПБ;
**Герасіменка Аляксандар Міхайлавіч** – старшыня Менскага гарвыканкаму (былы другі сакратар гаркаму КПБ);
**Гетц Барыс Гаўрылавіч** – Беларускае таварыства вэтэранаў, Барысаў;
**Грыб Мечыслаў Іванавіч** – старшыня Камісіі ВС (былы начальнік упраўленьня ўнутраных справаў Віцебскага аблвыканкаму);
**Грынёў Мікалай Фёдаравіч** – старшыня Магілеўскага аблвыканкаму;
**Гушаль Мікалай Рыгоравіч** – былы першы сакратар Гомельскага РК КПБ;
**Давідовіч Сяргей Фёдаравіч** – УУС Менскага аблвыканкаму;
**Дамашкевіч Мікалай Фёдаравіч** – галоўны інспэктар Кантрольнай палаты па Віцебскай вобласьці (былы першы сакратар Сеньненскага РК КПБ);
**Даменікан Мікалай Уладзіміравіч** – старшыня Баранавіцкага райвыканкаму (былы першы сакратар Баранавіцкага РК КПБ);
**Данілевіч Іван Мікалаевіч** – дырэктар саўгаса-аграфірмы імя 60-годзьдзя КПБ Бярозаўскага раёну;
**Даўжанкоў Уладзімір Сідаравіч** – былы першы сакратар Магілеўскага РК КПБ;
**Дваранiновіч Васіль Васілевіч** – дырэктар міжгаспадарчага прадпрыемства "Паўднёвае" Пінскага раёну;
**Дзегцяроў Станіслаў Рыгоравіч** – сакратар Камісіі ВС;
**Дземідзенка Валеры Аляксандравіч** – дырэктар Гомельскага мясакамбіната;
**Дземянцей Мікалай Іванавіч** – былы Старшыня ВС Беларусі;
**Драбышэўскі Пётр Іванавіч** – дырэктар Горацкага машынабудаўнічага завода;
**Дражын Уладзімір Несьцеравіч** – старшыня Нясьвіскага райвыканкаму (былы першы сакратар Нясьвіскага РК КПБ);
**Дубоўскі Анатоль Ігнатавіч** – старшыня калгаса "Трэці рашаючы" Салігорскага раёну;
**Жыдзіляеў Іван Іванавіч** – кіраўнік будаўнічага трэсту 18, г. Ворша;
**Жук Анатоль Міхайлавіч** – першы нам. старшыні Менскага аблвыканкаму;
**Жуковіч Яўген Барысавіч** – Беларускае таварыства глухіх, Менск;
**Жукоўскі Міхаіл Дзьмітравіч** – Беларускае таварыства вэтэранаў, Менск;
**Жураўлёў Мікалай Іванавіч** – Беларускае таварыства вэтэранаў;
**Жэбрак Міхаіл Вікенцевіч** – нам. старшыні Камісіі ВС (былы першы сакратар Ваўкавыскага ГК КПБ);
**Завадзкі Вікенці Браніслававіч** – былы першы сакратар Любанскага РК КПБ;
**Зайцаў Мікалай Фядотавіч** – Беларускае таварыства вэтэранаў, Віцебск;
**Зарэцкі Сьцяпан Рыгоравіч** – старшыня Чачэрскага райвыканкаму;
**Ізвалава Надзея Якаўлеўна** – Беларускае таварыства вэтэранаў, Берасьце;
**Казлоў Генадзь Іванавіч** – першы нам. начальніка Ўпраўленьня грамадзкай бясьпекі й абароны СМ;
**Казючыц Міхаіл Адамавіч** – нам. старшыні Камісіі ВС (былы першы сакратар Круглянскага РК КПБ);
**Казяк Вінцэнты Іванавіч** – былы другі сакратар Горадзенскага абкаму КПБ;
**Какарэка Георгі Георгіевіч** – генэральны дырэктар Аршанскага ільнокамбіната;
**Камай Аляксей Сьцяпанавіч** – былы другі сакратар ЦК КПБ;
**Канавалаў Уладзімір Яфімавіч** – былы сакратар Магілеўскага абкаму КПБ;
**Капытоў Мікалай Ермалаевіч** – старшыня Камісіі ВС;
**Карніевіч Мікалай Фаміч** – першы нам. старшыні Дзяржэканомпляну Беларусі;
**Карпаў Аляксей Аляксеевіч** – графік-рэтушор рэдакцыі бабруйскай раённай газэты "Трыбуна працы";
**Катушкін Пётр Міхайлавіч** – нам. старшыні Магілеўскага аблвыканкаму;
**Качан Міхаіл Арцёмавіч** – Беларускае таварыства вэтэранаў, Гомель;
**Кебіч Вячаслаў Францавіч** – Старшыня Савету Міністраў Беларусі;
**Кічкайла Аляксандар Трафімавіч** – нам. міністра сельскай гаспадаркі і харчаваньня Беларусі;
**Коваль Мікалай Мікалаевіч** – Беларускае таварыства вэтэранаў, Рэчыца;
**Комар Міхаіл Антонавіч** – старшыня Рагачоўскага райвыканкаму;
**Котаў Сяргей Міхайлавіч** – старшыня Камісіі ВС;
**Крывецкі Мікалай Анатолевіч** – старшыня занальнага камітэту свабоднага прадпрымальніцтва, г.Берасьце (былы першы сакратар Кобрынскага гаркаму КПБ);
**Крышталевіч Ульляна Феакцістаўна** – Беларускае таварыства вэтэранаў;
**Кудлаш Уладзімір Уладзіміравіч** – галоўны эканаміст Упраўленьня па абслугоўваньні маёмасьці Камітэта кіраваньня дзяржаўнай маёмасьцю пры СМ (былы першы сакратар ЦК ЛКСМБ);
**Кудравец Віктар Міхайлавіч** – нам. старшыні Горадзенскага аблвыканкаму;
**Кузьмянкоў Аляксандар Яўсеевіч** – начальнік Віцебскага абласнога аб'яднаньня па вытворчасьці садавіны і гародніны;
**Кузьняцоў Вячаслаў Мікалаевіч** – першы нам. Старшыні ВС (былы старшыня Савецкага райвыканкаму г.Менска);
**Кузюк Генадзь Уладзіміравіч** – старшыня Воранаўскага РАПА;
**Кулажэнка Аляксей Мікалаевіч** – Беларускае таварыства вэтэранаў, Берасьце;
**Кулакоў Уладзімір Панцялеевіч** – старшыня Віцебскага аблвыканкаму;
**Кулічкоў Аляксандар Мікалаевіч** – старшыня Камісіі ВС (былы нам. старшыні Магілеўскага аблвыканкаму);
**Лавіцкі Генадзь Міхайлавіч** – генэралмаёр, нам. старшыні КДБ;
**Лазебнік Віктар Міхайлавіч** – Беларускае таварыства вэтэранаў, Менск;
**Лакцюшын Мікалай Іванавіч** – Беларускае таварыства вэтэранаў, Ваўкавыск;
**Леўчык Уладзімір Канстанцінавіч** – старшыня Камісіі ВС (былы першы нам. старшыні Гомельскага аблвыканкаму);
**Ломаць Зянон Кузьміч** – былы першы сакратар Слуцкага гаркаму КПБ;
**Лужынскі Станіслаў Антонавіч** – старшыня калгаса "Бальшавік" Валожынскага раёну;
**Лукашэнка Аляксандар Рыгоравіч** – дырэктар саўгаса "Гарадзец" Шклоўскага раёну;
**Любавіцкі Вячаслаў Віктаравіч** – сакратар Камісіі ВС;
**Макейчанка Барыс Андрэевіч** – былы загадчык аддзелу ЦК КПБ;
**Малышаў Уладзімір Мікалаевіч** – сьлесар Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода;
**Мамчыц Аляксандар Іванавіч** – старшыня Кіраўскага райвыканкаму (былы першы сакратар Кіраўскага РК КПБ);
**Мардашоў Анатоль Андрэевіч** – Беларускае таварыства вэтэранаў, Берасьце;
**Маркоўскі Мікалай Мартынавіч** – начальнік упраўленьня Дзяржаўнага камітэту Беларусі па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС;
**Марозаў Васіль Фядотавіч** – Беларускае таварыства вэтэранаў, Берасьце;
**Марыніч Міхаіл Апанасавіч** – нам. старшыні Дзяржаўнага камітэту Беларусі па зьнешніх эканамічных сувязях (былы нам. старшыні Менскага гарвыканкаму);
**Мацюшэўскі Валеры Пятровіч** – старшыня Дзяржмаёмасьці Беларусі (былы першы сакратар Менскага РК КПБ);
**Мачуленка Міхаіл Арцёмавіч** – былы другі сакратар Гомельскага абкаму КПБ;
**Машко Іван Рыгоравіч** – нам. старшыні Горадзенскага аблвыканкаму (былы другі сакратар Горадзенскага абкаму КПБ);
**Мінчанка Пётр Захаравіч** – Беларускае таварыства вэтэранаў, Орша;
**Мінько Франц Францавіч** – дырэктар Стаўпецкага раённага прадпрыемства па вытворча-тэхнічным забесьпячэньні сельскай гаспадаркі Менскай вобл.;
**Мядзелец Вадзім Андрэевіч** – старшыня калгаса "1 Мая" Шаркаўшчынскага раёну;
**Мяць Баляслаў Станіслававіч** – старшыня калгаса імя Жалезьняковіча Карэліцкага раёну;
**Новікаў Анатоль Мікалаевіч** – Беларускае таварыства вэтэранаў, Менск;
**Новікаў Уладзімір Мяфодзевіч** – старшыня калгаса "Зара камунізму" Докшыцкага раёну;
**Някрасаў Ігар Яўгенавіч** – Беларускае таварыства інвалідаў, Пінск;
**Нялюбін Ігар Аляксандравіч** – начальнік вытворчага будаўніча-мантажнага аб'яднаньня "Гомельпрамбуд";
**Нятылькін Анатоль Іванавіч** – Беларускае таварыства сьляпых, Менск;
**Палагеча Ігар Іванавіч** – вайсковец;
**Пазюмка Аляксандар Іванавіч** – старшыня Быхаўскага райвыканкаму (былы першы сакратар Быхаўскага РК КПБ);
**Папоў Павел Аляксеевіч** – Беларускае таварыства вэтэранаў, Бабруйск;
**Папоў Юры Мікалаевіч** – нам. старшыні Камісіі ВС;
**Паўлаў Валеры Уладзіміравіч** – палкоўнік, нам. начальніка Упраўленьня грамадзкай бясьпекі й абароны СМ;
**Паўлоўскі Аляксандар Іванавіч** – нам. старшыні Горадзенскага аблаграпраму;
**Пахолак Мікалай Аляксандравіч** – старшыня калгаса "Сьцяг Леніна" Карэліцкага раёну;
**Пісарэвіч Сьцяпан Канстанцінавіч** – нам. старшыні Камісіі ВС (былы першы сакратар Івацэвіцкага РК КПБ);
**Піскароў Віктар Аляксеевіч** – старшыня Камісіі ВС па рэабілітацыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў пры ВС (былы міністар унутраных справаў БССР);
**Піскуноў Анатоль Ігнатавіч** – Беларускае таварыства сьляпых, Віцебск;
**Піцуха Валеры Іванавіч;**
**Пракаповіч Пётр Пятровіч** – старшыня праўленьня Берасьцейскага аблсельбуду;
**Пракопаў Аляксандар Міхайлавіч** – былы першы сакратар Брагінскага РК КПБ;
**Прывалаў Леанід Пятровіч** – палкоўнік, нам. старшыні Камісіі ВС;
**Пянькова Зінаіда Васілеўна** – дырэктар СШ №30 г. Магілева;
**Радзецкі Яўген Іванавіч** – былы другі сакратар Віцебскага абкаму КПБ;
**Рахатка Казімір Уладзіслававіч** – дырэктар саўгаса "М.Мажэйкава" Лідзкага раёну;
**Руцкі Дзьмітры Дзьмітравіч** – першы нам. міністра сельскай гаспадаркі і харчаваньня Беларусі (былы першы сакратар Пінскага РК КПБ);
**Саенка Аляксей Пятровіч** – былы загадчык прыёмнай Берасьцейскага абкаму КПБ;
**Сакалоў Анатоль Дзьмітравіч** – вайсковец;
**Салдатаў Мікалай Мікалаевіч** – нам. старшыні Камісіі ВС (былы першы сакратар Бераставіцкага РК КПБ);
**Самошчаў Уладзімір Васілевіч** –былы супрацоўнік ЦК КПБ;
**Самусевіч Раіса Мікалаеўна** – дырэктар сярэдняй школы № 2 г.Асіповічаў;
**Сапранецкі Мікалай Кірылавіч** – старшыня калгаса імя XX зьезду КПСС Крычаўскага раёну;
**Сарокін Валянцін Інакенцьевіч** – Беларускае таварыства вэтэранаў, Горадня;
**Селівончык Яўген Сьцяпанавіч** – нам. генэральнага дырэктара вытворчага аб'яднаньня "БелаўтаМАЗ";
**Сівіцкі Герард Уладзіслававіч** – генэралмаёр міліцыі, начальнік упраўленьня ўнутраных справаў Берасьцейскага аблвыканкаму;
**Сівіцкі Дзьмітры Аляксандравіч** – нам. міністра транспарту Беларусі;
**Сінчылін Васіль Ільіч** – Беларускае таварыства вэтэранаў, Менск;
**Сіўчыкаў Анатоль Андрэевіч** – генэральны дырэктар прадпрыемства "Прагрэс", Віцебск;
**Скарабагацька Пётр Андрэевіч** – старшыня Лунінецкага райвыканкаму (былы першы сакратар Лунінецкага гаркаму КПБ);
**Скарынін Мікалай Паўлавіч** – галоўны дарадца Старшыні СМ Беларусі (былы брыгадзір наладчыкаў завода "Эталон");
**Скрыцкі Уладзімір Фёдаравіч** – старшыня калгаса імя Леніна Бялыніцкага раёну;
**Слабада Аляксандар Іванавіч** – Беларускае таварыства вэтэранаў, Менск;
**Смоляр Іван Мікалаевіч** – старшыня камісіі ВС (былы сакратар Гомельскага абкаму КПБ);
**Студзянцоў Уладзімір Міхайлавіч** – палкоўнік міліцыі;
**Судас Мікалай Міхайлавіч** – нам. начальніка ўпраўленьня Гомельскага аблвыканкаму (былы першы сакратар Акцябрскага РК КПБ);
**Сумар Канстанцін Андрэевіч** – старшыня Берасьцейскага райвыканкаму (былы першы сакратар Берасьцейскага РК КПБ);
**Сьцепаненка Аляксей Мікалаевіч** – старшыня Жыткавіцкага райвыканкаму;
**Сьцепаненка Мікалай Іванавіч** – першы нам. міністра аховы здароўя Беларусі;
**Сьлесар Уладзімір Міхайлавіч** – першы намесьнік старшыні Гомельскага аблвыканкаму;
**Торманаў Фёдар Мікалаевіч** – былы першы сакратар Петрыкаўскага РК КПБ;
**Тоўсьцік Мікалай Апанасавіч** – Беларускае таварыства вэтэранаў, Магілеў;
**Трацьцякоў Аляксандар Аляксандравіч** – Беларускае таварыства вэтэранаў, Столін;
**Трусаў Іван Іванавіч** – дырэктар завода "Чырвоны мэталіст", Барысаў;
**Трухан Канстанцін Пятровіч** – падпалкоўнік міліцыі, нам. начальніка Пухавіцкага РАУС;
**Унучка Раман Іосіфавіч** – старшыня Камісіі ВС (былы першы сакратар Наваградзкага гаркаму КПБ);
**Уранюк Уладзімір Яўгенавіч** – загадчык аддзелу аховы здароўя Берасьцейскага аблвыканкаму;
**Усьціновіч Алена Мікалаеўна** – Беларускае таварыства вэтэранаў, Пухавічы;
**Федарчук Мікалай Аляксеевіч** – старшыня Віцебскага гарвыканкаму;
**Федарэнка Віктар Мікалаевіч** – вайсковец;
**Фрэйберг Андрэй Пятровіч** – галоўны доктар Зэльвенскага раёну;
**Халшчэўнікаў Якаў Іванавіч** – сакратар Камісіі ВС;
**Хейдараў Юры Пятровіч** – галоўны доктар мэдыка-санітарнай часткі ВА "Бабруйскшына";
**Ціткоў Станіслаў Пятровіч** – нам. старшыні Камісіі ВС (былы старшыня Магілеўскага абкаму народнага кантролю);
**Цітоў Іван Віктаравіч** – начальнік спэцыялізаванага будаўнічага аб'яднаньня "Палесьсеводбуд", Пінск;
**Ціцянкоў Іван Іванавіч** – былы першы сакратар Краснапольскага РК КПБ;
**Цішкевіч Альфонс Ільіч** – старшыня Менскага аблвыканкаму;
**Цялежнікаў Уладзімір Іванавіч** – дырэктар Полацкага камбінату будматэрыялаў;
**Цярэшка Іван Іванавіч** – старшыня Камісіі ВС;
**Чакушоў Уладзімір Міхайлавіч** – нам. старшыні Дзяржзабесьпячэньня Беларусі;
**Чарныш Уладзімір Рыгоравіч** – генэралмаёр (былы начальнік Упраўленьня КДБ па Берасьцейскай вобл.);
**Чувічка Уладзімір Васілевіч** – Беларускае таварыства інвалідаў, Менск;
**Чура Леанід Максімавіч** – старшыня праўленьня аб'яднаньня "Белсельбуд";
**Чырун Віктар Іванавіч** – начальнік мэдслужбы Гомельскага ўпраўленьня КДБ;
**Чэпік Васіль Васілевіч** – старшыня Пастаўскага райвыканкаму (былы першы сакратар Пастаўскага РК КПБ);
**Чэх Георгі Данілавіч** – сакратар Камісіі ВС (былы нам. старшыні Столінскага райвыканкаму);
**Шакаў Міхаіл Логвінавіч** – падпалкоўнік міліцыі, нам. начальніка Магілеўскай школы транспартнай міліцыі;
**Шаладонаў Васіль Іванавіч** – Генэральны пракурор Беларусі;
**Шарко Мікалай Піліпавіч** – Беларускае таварыства глухіх, Менск;
**Шаўнін Аляксей Мікалаевіч** – дырэктар прадпрыемства "Альбярцін", Слонім;
**Шкурко Валянцін Пятровіч** – былы першы сакратар Буда-Кашалёўскага РК КПБ;
**Шукшын Валеры Сьцяпанавіч** – Беларускае таварыства ветэранаў, г.Менск
**Шылько Баляслаў Піусавіч** – старшыня калгаса "Дружба" Пастаўскага раёну;
**Шэйман Віктар Уладзіміравіч** – сакратар Камісіі ВС;
**Якабсон Аляксандар Серафімавіч** – старшыня Сьветлагорскага гарвыканкаму;
**Янец Анатоль Анатолевіч** – старшыня Смаргонскага райвыканкаму.

ПАЛІТЫЧНЫ КАМЭНТАР

# ВЫЙГРАЛІ ПАЛІТЫКАНЫ

## Прайграў народ і Народны Фронт

На XI-й нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету мы сталі сьведкамі антыдзяржаўнай змовы супраць Беларусі і назіралі, як яна ажыцьцяўлялася. Былі рэальныя шанцы яе правальць, калі б, як заўсёды ціха і непрыкметна, у патрэбны момант не "знайшоў згоду" Старшыня Вярхоўнага Савету. Нешматлікая Апазыцыя БНФ выйграла ўсе дні сэсіі, акрамя апошняга.

Тое, што С.Шушкевіч "знойдзе згоду", нельга было сумнявацца (прырода сваё возьме). Цікава было толькі паглядзець, як гэта здарыцца. А здарылася ўсё трывіяльна, хоць і больш тонка, чым пры антызаконнай забароне рэфэрэндуму, пры аднаўленьні дзейнасьці КПСС-КПБ і іншых драбнейшых маладушных учынках. Сьпікер з прэм'ерам проста дамовіліся.

Як і ў ранейшых выпадках, намэнклятура паставіла сьпікера (ці, як яны вымаўляюць, "скіпера") перад выбарам, намякаючы адначасна пра магчымасьць яго адстаўкі. Прыём заўсёды спрацоўваў бездакорна. Ад "скіпера" патрабавалася ня даць нармальна працаваць Апазыцыі – адзінай сіле ў Вярхоўным Савеце, якая можа сапсаваць гульню большасьці. Кіраўнік сэсіі заўсёды стараўся. Груба парушаліся законы, рэгламант, адключаліся і не ўключаліся мікрафоны, не давалася слова, галасаваньнем большасьці спынялася дыскусія. Ужываліся нават адкрытыя падтасоўкі галасаваньня (як, напрыклад, пры аднаўленьні КПСС-КПБ), супрацьзаконныя перагаласоўкі і г.д. Вярхоўны Савет у такім выпадку поўнасьцю губляў свае, нават мінімальныя, прыкметы парляманту; дэпутатаў Апазыцыі пад гіканьне і выкрыкі, ёрніцтва Старшыні, разьлічанае на ўхваленьне камуністычнае большасьці, фактычна пазбаўлялі на сэсіі дэпутацкіх правоў. Дзіўна, што ў такіх бальшавіцкіх умовах пры сваёй малалікасьці Апазыцыя Народнага Фронту часам магла перамагаць гэтую кучу сонных, не заўсёды цьвярозых, ахамелых "народных абраньнікаў".

На гэты раз выбар быў пастаўлены вельмі сур'ёзна. Адмова ад нэўтралітэту і бязьядзернасьці Беларусі, ваенны саюз з Расеяй і азіяцкімі краінамі – гэта ня толькі пэрспэктыва страты незалежнасьці, гэта крах мірнай незалежнай палітыкі, страты прэстыжу і пазыцыяў у сьвеце. І эта пагроза жыцьцям грамадзянаў Беларусі. Старшыня Вярхоўнага Савету такой дзяржавы ператвараецца ў палітычны нуль. С.Шушкевіч зразумеў гэта і ... павёў сэсію па рагляманце. Апазыцыя БНФ атрымала роўныя магчымасьці з дэпутатамі намэнклятурнай большасьці і пачала перамагаць. Тады раптам перапынілі сэсію на тыдзень, каб падрыхтаваць падтрымку ад саўмінаўскіх структураў (правёўшы розныя псэўдаэкспэртызы і інш.).

Пасьля перапынку першы дзень (8-га красавіка) намэнклятура зноў прайграла. У яе пачаліся лёгкія "дрыжыкі". І вось тады, назаўтра, мы ўбачылі бяздарны спэктакаль.

Дарадца В.Кебіча, ён жа дэпутат, прапануе на галасаваньне пытаньне аб даверы С.Шушкевічу. Кароткая дыскусія ў карысьць гэтае прапановы – і ў другім канцы ўстае іншы стагнат з гэтай жа каманды і пачынае ... абараняць Шушкевіча, заклікае не галасаваць за прапанову першага "актора". Першы выступант упарціцца. Прадстаўнік Апазыцыі цікавіцца ў прэм'ер-міністра, што "сіе" значыць, ці думае спадар Кебіч гэтак жа, як яго прыбліжаны дараднік? Спадар Кебіч чырванее і кажа, што размаўляў з дараднікам, але да яго прапановы ня мае ніякага дачыненьня. Дэпутаты ўхмыляюцца. Гульня мускулаў прадаўжаецца. Намэнклятура дэманструе "скіперу" сваю сілу. Паспрабуй зрабі не па-нашаму.

Спадар Шушкевіч, між іншым, спакойны. Ён ужо са спадаром прэм'ерам знайшоў згоду. Сьпікер ставіць на галасаваньне пытаньне аб даверы сабе і, вядома, атрымлівае яго. І тут жа ўсё мяняецца. Дэпутаты Апазыцыі зноў не атрымліваюць слова, зноў парушаецца рагламант, не ўключаецца мікрафон і г.д. Сьпікер падводзіць пад галасаваньне чацьверты пункт – аб калектыўнай бясьпецы (супраць якога выступае сам, але што зробіш – спэктакаль дзеецца, трэба выконваць ролю).

Сьпікер пачынае сьпяшацца. Ён, як і ўсе ў зале, ведае, што пасьля абеду ваенны саюз будзе правалены, бо сёньня пятніца, і палова "палітбайцоў" разьедзецца па дамах. Праверана – нішто не стрымае іх: ні вайна, ні гром нябесны, нават канец сьвету. Яны ўсё роўна разьбягуцца па хатах. Таму спадар Шушкевіч не марудзіць і, паглядаючы на засяроджанага прэм'ера, вядома ж, дасягае мэты. Дарма дэпутаты Апазыцыі зьвярталі ўвагу ўсіх, што галасаваць канстытуцыйнае палажэньне трэба 2/3 галасоў, кідаліся да трыбуны, пратэставалі, выходзілі з залы. Згода адбылася.

Прагаласавалі простай большасьцю пра даручэньне падпісаць ваенны дагавор аб калектыўнай бясьпецы. Тут жа спадар Шушкевіч эфэктоўна заявіў пра вынясеньне пытаньня на рэфэрэндум – і тут жа згадзіўся з стагнацкай большасьцю, каб вынесьці на ўсенароднае галасаваньне "і іншыя важнейшыя пытаньні", што і разглядзець на чарговай сэсіі ў траўні.

У выніку задаволеныя: спадар Шушкевіч, які захаваў сваё крэсла, падмацаваў свой вобраз змагара за згоду і дасягнуў згоды з прэм'ерам; спадар Кебіч, які выйграў палітычную гульню і накінуўтакі на шыю Беларусі пятлю ваеннага саюзу (засталося толькі зашмаргнуць, што і пастараюцца зрабіць у траўні); спадары намэнклятура, якія дасягнулі мэты і перамаглі Апазыцыю. Адным словам, суцэльная згода. Закон парушаны. Выйгралі ўсе палітыканы. Прайграў народ і Народны Фронт.

Падзеі ў траўні будуць у значнай ступені залежаць ад вынікаў рэфэрэндуму ў Расеі аб даверы прэзыдэнту Ельцыну. Калі Ельцын не атрымае падтрымкі народу Расейскай Фэдэрацыі, дык, безумоўна, камуністы і антынезалежніцкія сілы ва ўрадзе і Вярхоўным Савеце Беларусі ўзбадзёрацца, стануць паводзіць сябе нахабна і самаўпэўнена, убачаць новы шанц для зьнішчэньня нашае дзяржавы, для эксгумацыі СССР і камунізму.

Малаверагодна таксама, каб пры апатыі народу Беларусі, якую мы цяпер назіраем, справа дайшла да рэфэрэндуму. Навошта гэта намэнклятуры, калі ўсё залежыць ад яе? Прыдумаюць чарговую згоду. У гэтым можна не сумнявацца, маючы на ўвазе "палітычна-бытавыя" паводзіны сьпікера, яго беспрынцыповае імкненьне спалучыць несалучальнае – інтарэсы гвалтаўніка і ахвяры, знайсьці паміж імі "згоду". Жыцьцё ўвесь час б'е яго па галаве, прымушае раз за разам здраджваць, але, відаць, ня вучыць. Якое можа быць пагадненьне з тымі, хто, будучы ў Вярхоўным Савеце, ненавідзіць нашую дзяржаву, незалежнасьць, дзяржаўныя сьвятыні і сымбалі, хто ўступае ў антыдзяржаўную змову з камуністамі іншай краіны, рыхтуе дзяржаўны пераварот?!

На наступнай сэсіі яны паставяць чарговыя пытаньні – аб зьнішчэньні асноваў дзяржаўнасьці Беларусі, у першую чаргу грамадзянства (праз увядзеньне двайнога грамадзянства), увосень пастараюцца паставіць пытаньні аб дзяржаўнасьці расейскай мовы, аб аднаўленьні камуністычных сьвятаў, камуністычнай сымболікі, аб "маёмасьці" КПСС-КПБ, аб інкарпарацыі ў Расею і г.д.

Сытуацыя ўнікальная: незалежная дзяржава – але сэрвільнае грамадзтва, антынацыянальны, нелегітымны парлямант і антыдзяржаўны ўрад. Так скула ня лопне. Хутчэй пачнецца гангрэна. Толькі сіла можа ўратаваць такі арганізм ад клінічнай сьмерці. Ці знойдзецца, ці зьявіцца такая сіла – вось дзе пытаньне.

**Мар'ян Ванькевіч**

# ЗАЯВА

## Апазыцыі Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце

На XI нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету Беларусі яго пракамуністычнай большасьцю зроблены яшчэ адзін крок у бездань: прынятая пастанова даручыць Старшыні Вярхоўнага Савету падпісаць ад імя Рэспублікі Беларусі дамову аб "калектыўнай бясьпецы" з Расеяй, Арменіяй, Казахстанам, Кыргызстанам, Таджыкістанам, Туркмэністанам, Узбэкістанам. Камуністы спрабавалі ўвесьці ў зман грамадзкасьць Беларусі, хаваючы свае сапраўдныя намеры – праз адмаўленьне ад нэўтралітэту ліквідаваць незалежнасьць нашай краіны.

Правядзеньне палітыкі, скіраванай на зьнішчэньне нашага нэўтралітэту, што цягне за сабой і адмову ад бязьядзернасьці Беларусі, прымус да ўступленьня ў ваенны блёк з Расеяй выклікана дзьвюма прычынамі.

Па-першае, гэта вынік поўнага правалу эканамічнай палітыкі Савету Міністраў і боязь адказнасьці перад народам за разбуральныя наступствы сваіх дзеяньняў. Намэнклятура шукае зьнешняй сілы, на якую можна зваліць свае грахі і абаперціся, калі ўлада захістаецца.

Другая прычына – гэта авантурнае імкненьне адрадзіць ранейшую ўладу КПСС, узнавіць таталітарны СССР. Беларуская посткамуністычная намэнклятура, якая не прызнала самастойнасьці і сувэрэнітэту краіны, якая заўсёды вылучалася правінцыйнасьцю і нацыянальным нігілізмам, фактычна ўступіла ў змову з найбольш рэакцыйнымі і артадаксальнымі пракамуністычнымі сіламі Расеі, зацікаўленымі ў рэанімацыі КПСС ды інкарпарацыі Беларусі ў адноўленую імпэрыю. Кіруючая мафіёзная алігархія Беларусі не падтрымлівае дэмакратычную Расею, а выступае за саюз з Расеяй таталітарнай, камуністычнай, імпэрскай. Гэтыя людзі гатовыя прадаць свой народ і незалежнасьць дзяржавы. Капітуляцыю Беларусі перад ваенным дагаворам аб калектыўнай бясьпецы кіруючыя змоўшчыкі хочуць выкарыстаць як адзін з аргумэнтаў супраць дэмакратычнай, антытаталітарнай палітыкі Ельцына ў Расейскай Фэдэрацыі.

Апазыцыя Беларускага Народнага Фронту ў сваім "Звароце да народу Беларусі" ("Народная газэта" за 6 красавіка сёлета) дала падрабязную юрыдычную і палітычную ацэнку факту змовы пракамуністычных, праімпэрскіх сілаў Расеі і Беларусі. У часе Сэсіі гэтыя аргумэнты абвергнутыя не былі. Усё вырашыла машына для галасаваньня, усё вырашылі ўжо звыклыя парушэньні рагляманту – калі канстытуцыйная норма галасавалася простаю большасьцю галасоў, калі ня ставіліся на галасаваньне пісьмовыя папраўкі дэпутатаў ад Апазыцыі і г.д.

Тым ня менш Беларускі Народны Фронт, іншыя дэмакратычныя сілы, што ўзьнялі свой голас супраць антынародных плянаў ураду В.Кебіча, атрымалі маральную перамогу. Пракамуністычнаму, прасаўмінаўскаму лёбі, якое складае большасьць у сёньняшнім Вярхоўным Савеце, давялося пад націскам апазыцыйных дэпутатаў прыняць рашэньне, згодна зь якім лёс нэўтральнага і бязьядзернага статусу нашае дзяржавы павінен будзе вырашацца на ўсебеларускім рэфэрэндуме. Галоўная мэта дэмакратычных сілаў сёньня – каб такі рэфэрэндум адбыўся.

Ня зьнятае і ня можа быць зьнятае з парадку дня таксама пытаньне адмены незаконнага рашэньня Вярхоўнага Савету ад 29 кастрычніка 1992 г. аб забароне рэфэрэндуму па датэрміно-вай яго адстаўцы, ініцыятарамі якога выступілі 442 тысячы грамадзянаў Беларусі. Толькі новыя выбары паводле дэмакратычнага закону могуць прывесьці да замены скарумпаванай камуністычнай мафіі, якая пакуль што трымае ўладу практычна паўсюдна на Беларусі.

Апазыцыя Беларускага Народнага Фронту заклікае ўсе здаровыя сілы грамадзтва гуртавацца вакол ідэі барацьбы за захаваньне нэўтралітэту нашае дзяржавы, за правядзеньне рэфэрэндуму па іншых кардынальных пытаньнях нашага жыцьця. Мы ня маем права даць камуністам змарнаваць той шанец, які гісторыя адпусьціла нашаму народу ў канцы XX стагодзьдзя.

**НЕ – уцягваньню Беларусі ў ваенна-палітычныя блёкі і ў канфлікты далёка за межамі нашае дзяржавы!**

**НЕ – антынароднаму, пракамуністычнаму ўраду, які рыхтуе глебу для новай рэакцыйнай дыктатуры!**

**НЕ – паўзучаму наступу камуністычных праімпэрскіх сілаў на Беларусі, цесна зьвязаных з антыдэмакратычнымі сіламі ў Расеі!**

**Жыве нэўтральная, мірная, дэмакратычная, вольная Беларусь!**

**Дэпутаты Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце**

*Малюнак Кастуся Кіпеня*




РЭПЛІКА

# ЦІ БУДЗЕ РЭФЭРЭНДУМ?

"Згода", зь якой дэпутацкая большасьць пагадзілася разглядзець на наступнай сэсіі пытаньне аб правядзеньні рэфэрэндуму, прапанаванага С.Шушкевічам, насьцярожвае. Чаму, ведаючы адмоўнае стаўленьне пераважнай большасьці грамадзянаў Беларусі да ваеннага саюзу, людзі, якія прыклалі столькі намаганьняў дзеля яго стварэньня, раптам згаджаюцца даверыць канчатковае рашэньне народу? Няўжо пранікліся павагай да народу? Чаму ж тады яны "згодныя" на рэфэрэндум толькі перад ратыфікацыяй дамовы, абавязаўшы С.Шушкевіча папярэдне гэтую дамову падпісаць?

Наконт павагі да народу – мы ведаем. Але чаму – спачатку падпісаць, потым рэфэрэндум? Адказ дае арт.3 Закону аб рэфэрэндуме: ***"На рэспубліканскі рэфэрэндум не выносяцца пытаньні, якія датычацца выкананьня абавязацельстваў, што вынікаюць зь міжнародных дагавораў Рэспублікі Беларусі ..."***

Уяўляю сцэнар разьвіцьця падзеяў. Спадар Шушкевіч дагавор падпіша, бо: ***"Я павінен выконваць рашэньні Вярхоўнага Савету, хоць я ня згодны..."***. Пасьля гэтага на трыбуну Вярхоўнага Савету выйдзе дэпутат Булахаў і скажа: ***"Беспристрастная юридическая оценка любой проблемы может быть основана только на имеющихся правовых актах, определяющих суть используемых терминов..."*** (цытую паводле дакумэнта "К вопросу о соотношении нейтралитета Республики Беларусь и коллективной безопасности СНГ", падпісанага Д.Булахавым – У.А.). І пераканаўча дакажа, што паколькі дагавор ужо падпісаны і гэта накладае на Беларусь пэўныя абавязкі, рэфэрэндум праводзіць забараняе Закон, які павінны быць "***девственно чист и непорочен***"!

Як тады прагаласуюць дэпутаты? Ужо бачылі. А спадар Шушкевіч чарговы раз разьвядзе рукамі і скажа: ***"я павінны выконваць рашэньні Вярхоўнага Савету, хоць я ня згодны..."***.

**Уладзімір Анцулевіч**

# ШТО КАЗАЛА АПАЗЫЦЫЯ БНФ

**Паводле скарочанай стэнаграмы XI нечарговай сэсіі ВС**

## ЛЯВОН БАРШЧЭЎСКІ

**Наваполацкая-Маладзёжная выбарчая акруга №174**

Эканоміка без адпаведнай культуры – нонсэнс. Пусьціце племя дзікуноў у самую цывілізаваную краіну – і праз год-два там зьнішчыцца ўсё. І, наадварот, дайце нашыя магчымасьці і патэнцыял японцам ці галяндцам – і праз кароткі час будзе ўсё наладжана куды больш эфэктыўна, чым цяпер.

Яшчэ пачынаючы з кастрычніка–лістапада сп. Кебіч, а потым і сп. Шушкевіч езьдзілі ў Алма-Ату, пасьля ў Віскулі, пасьля зноў у Алма-Ату, потым было мноства сустрэчаў на ўзроўні СНД, дзе былі падпісаны ўсе магчымыя і немагчымыя (разам каля 70) пагадненьні аб адзінай эканамічнай прасторы, рублёвай зоне, адзінай мытнай прасторы, адсутнасьці пошліны, квоты і г.д. Каб гэтыя пагадненьні выконваліся хоць бы на 10%, чыноўніцкіх перашкодаў для руху тавараў і капіталу не было б.

Чаму ж яны не выконваюцца? На паверхні ляжыць 5 найважнейшых прычын.

Першая. Расейская Фэдэрацыя, безь якой ня можа быць цэлай эканамічнай прасторы ў СНД, пастаянна балянсуе на мяжы грамадзянскай вайны. А на яе ўскраінах такая вайна фактычна ўжо ідзе.

Другая. Расея зрабіла больш рашучыя і больш радыкальныя крокі на шляху да рынкавай эканомікі, хоць і паводле ня надта прымальнай для яе лібэральнай мадэлі. Бальшавіцкія спробы скінуць прыхільніка рынкавых рэформаў – прэзыдэнта Ельцына – чарговы раз праваліліся. Наша ж Беларусь займаецца выключна імітацыяй руху да рынку. Кіруючыя бюракраты, калі і зацікаўлены ў рынку, дык у рынку дзікім (па афрыканскім ці лацінаамэрыканскім узоры), калі капіталістамі могуць стаць толькі тыя, хто стаіць блізка да ўлады або мае яе.

Беларускі ўрад і большасьць у Вярхоўным Савеце па сутнасьці антырынкавыя структуры. Яны не зрабілі нічога, каб прадукцыя беларускіх прадпрыемстваў заваёўвала іншыя рынкі, хоць бы ў межах былога СССР. Ды і кіраўнікі шмат якіх прадпрыемстваў падбіраліся не заўсёды па дзелавых якасьцях. Для сапраўднага ініцыятыўнага вытворцы няма невырашальных праблем ані з сыравінай, ані зь пераводам платаў хоць за трыдзевяць зямель. Ёсьць тысячы законных спосабаў вырашэньня гэтых пытаньняў.

На мінулай сэсіі Вярхоўным Саветам (нагадваю, калі хто ня памятае) быў ратыфікаваны мытны саюз. Ці ратыфікаваны ён іншымі бакамі, мне пакуль што невядома.

Трэцяя. Эканоміка той жа Расейскай Фэдэрацыі ў цяжкім стане. Не сакрэт, што дзясяткі заводаў ВПК, і ня толькі яго, ужо фактычна там стаяць, што будучая сяўба забясьпечана ў Расеі палівам толькі на 50%. Прымор'е, якое пакуль што ня мае сувэрэнітэту і ўсё-такі ўваходзіць у Расею, у студзені было бяз нафты і газу. Здабыча нафты, рознай сыравіны зьніжаецца, канца гэтаму зьніжэньню не відаць. Паводле самога сп. Хасбулатава, які быў тут, толькі на 7% выконваюцца ўнутраныя распараджэньні органаў улады Расеі.

Чацьвертая. Усе нашыя беды ня толькі ў Расеі. Наш дарагі ўрад ня змог, а можа і ня надта хацеў кантраляваць сытуацыю з рээкспартам сыравіны і тавараў з Расеі ў трэція краіны. Хто на гэтым добра набіў сабе кішэню, спадзяюся, у хуткім часе высьветліць незалежны суд, але тое, што ўрад не пазьбег гэтай масавай зьявы, – факт відавочны. У гэтых умовах можна зразумець і расейскі бок, калі ён уводзіў пэўныя абмежаваньні, хоць і незаконныя, на экспарт у Беларусь.

Нарэшце, пятая прычына, можа, самая галоўная – нельга давяраць кіраваць дзяржавай людзям няшчырым, тым, хто ненавідзіць сувэрэнітэт, культуру, мову, звычаі народу, якім кіруе. Нельга давяраць рынкавыя формы і фармаваньне здаровай эканомікі камуністам, якія гістарычна засьведчылі сваю абсалютную нявдольнасьць да гэтага. Паглядзім на эканоміку хоць бы Фінляндыі – былой ускраіны Расеі, якой удалося пазьбегнуць бальшавіцкага экспэрымэнту. Зірнем на эканамічную сытуацыю ва Ўсходняй Германіі, дзе частка аднаго і таго ж народу пад мудрым кіраўніцтвам пэўнай партыі дайшла да разрухі і заняпаду ўсяго за 40 гадоў. Нічога з таго, каб нэўтралізаваць адмоўнае дзеяньне названых пяці прычын, кіраўніцтва ўраду фактычна не зрабіла.

Цяпер пра тэзу так званай калектыўнай бясьпекі і магчымага далучэньня да яе, пра што гаварыў 18 сакавіка сп. Кебіч. Абыдуся тут без эмоцыяў, хоць гэта і цяжка зрабіць. Скажу найперш шаноўным гасьцям кіраўнікам прамысловасьці (яны, пэўна, не знаёмыя з тэкстам дагавору, які падпісаў з Расейскай Фэдэрацыяй 20 ліпеня 1992 года сп. Кебіч і які большасьць гэтага Вярхоўнага Савету на мінулай сэсіі ратыфікавала). Тут фактычна гаворка ўжо ідзе пра шчыльны ваенны саюз з Расеяй. Цытую арт. 5 гэтага дагавору: "Бакі, не парушаючы сваіх міжнародных абавязкаў, захоўваюць на дагаворнай аснове наладжаныя сувязі па вытворчасьці і забесьпячэньні ўзбраеньнем, ваеннай тэхнікай... Матэрыяльна-тэхнічнае забесьпячэньне ўдзельнікаў распрацоўкі і вытворчасьці ўзбраеньня і ваеннай тэхнікі ажыцьцяўляецца па дзяржаўных заказах бакоў адпаведна". Здаецца, тут усё ясна: праўная аснова для працягу існаваньня магутнага ВПК у Расеі, у Беларусі ёсьць. Як толькі быць з маральным бокам ды з Канстытуцыяй? Тым ня менш камусьці хочацца, аж колецца, упісаць Беларусь яшчэ і ў Пакт аб калектыўнай бясьпецы з Расеяй, Арменіяй і Таджыкістанам, іншымі краінамі СНД. Значыць, будзе магчымасьць запаўняць брэшы у Таджыкістане, Карабаху, Інгушэціі, Асеціі беларускімі хлопцамі, як гэта было ў 1968 годзе ў Чэхаславакіі, у 1979 і пазьней у Аўганістане. Ну а калі Жырыноўскі, Бабурын ці Аксючыц неяк прарвуцца да ўлады ў Расеі, гэтая калектыўная бясьпека, безумоўна, абернецца для нас тым жа, чым абярнуўся ўдзел у Варшаўскім Дагаворы для венграў у 1956 годзе, для чэхаў і славакаў на 12 год пазьней. Нядаўняя трагічная сьмерць нашага земляка лётчыка расейскіх ваенна-паветраных сіл Вацлава Шыпко шмат пра што гаворыць.

Днямі падаў у адстаўку адзінаццаты за апошнія 13 гадоў урад Бэльгіі – у сувязі са зьніжэньнем тэмпаў эканамічнага разьвіцьця краіны. Куды ж трэба загнаць наша эканамічнае разьвіцьцё, каб вы, шаноўная большасьць, адправілі ў адстаўку свой выпеставаны яшчэ ў ЦК КПБ на дражджах былой ВПШ урад ці хоць бы яго кіраўніка?!

30 сакавіка 1993 г.

## УЛАДЗІМІР ЗАБЛОЦКІ

**Някрасаўская выбарчая акруга №35**

Правительством упущено время. Что необходимо было ему для действий, какие ещё права? Правительству неоднократно давался карт-бланш. Ему принадлежит большинство в Верховном Совете. Чего не хватало правительству?

Я думаю, что нельзя положительно ответить на этот вопрос. Были все необходимые полномочия и возможности. Говорить о том, что оппозиция выступает за свёртывание экономических отношений с бывшими республиками СССР – это ложь, причём наглая ложь. Никогда оппозиция такого не говорила.

Оппозиция предлагает в рамках реформирования экономики постепенно ликвидировать монополию торговых отношений. И только. Кроме этого, общеизвестно, что ресурсов России не хватает для обеспечения функционирования экономик стран СНГ. И такой прогноз известен, например, по нефти. Даже при значительных валютных инвестициях (более 50 миллиардов долларов) нефтедобыча России сможет обеспечить страны СНГ только на 40%. Мы уже имеем факты, когда цены на ресурсы, поступающие из других республик бывшего Союза, превышают мировые.

Так что оппозиция не мешала действовать правительству. Очевидно, причины гораздо глубже. Прежде всего они – в отказе от собственной политики, самостоятельной работы. Свобода и самостоятельность требуют иной ответственности, иного поведения и более строгого анализа предполагаемых действий и принятых решений.

Что конструктивного предлагается со стороны оппозиции? Это уже известные предложения, которые уж кому-кому, а правительству были представлены в первую очередь и, кроме всего прочего, в виде законодательных поправок:

1. Признать, что Беларусь – государство, со всеми следствиями из этого вывода.

2. Подготовить правовую основу реформы, в основе которой – упорядочение отношений собственности, признание права государства на собственность, то есть – не государственная собственность в прежнем понимании, а собственность субъекта-государства. Гарантии права собственности, четкое разделение доходов на доходы собственника, наемного коллектива, предпринимательской группы или группы управленцев (холдинг-группы или холдинг-компании).

Без такого упорядочения нельзя реформироваться. Будет строительство на перекошенном фундаменте.

Разгосударствление, как главный процесс на сегодня, с последующим переходом к процессу приватизации, который включает в себя элемент (как ни покажется странным) национализации. Есть уже примеры захвата государственной собственности с нарушением законов, и здесь необходимо уже проводить национализацию. Разгосударствление базируется на нескольких ключевых принципах: разделение функций власти и собственности, разделение бюджетов государства и предприятий.

Новая бюджетная политика предполагает другую налоговую систему, которая будет способствовать производству.

Особо стоит вопрос о денежной, кредитно-финансовой политике. Беларусь при самостоятельной политике могла бы избежать гиперинфляции. Совокупная реформа валюты, кредитов, цен. Для этого необходимы атрибуты государственности, таможни, граница. Нельзя вводить эти системы, не обеспечив собственного таможенного пространства. Такая реформа требует воли, и прежде всего политической.

Теперь о кредитах. Стабилизационные кредиты необходимы, во-первых, для стабилизации курса собственной валюты (это 2–2.5 млрд. долларов); для обеспечения работы экономики (4–5 млрд. долларов). Здесь же предусматриваются резервы для общественных работ и создания инфраструктуры, например, дорожного строительства. Здесь же резервы для пособий по безработице, для того чтобы при проведении структурной перестройки на её процессы не давила безработица. Это необходимо, чтобы создавались только эффективные рабочие места, на которых валовой национальный продукт не уменьшается.

Стабилизация курса денежной единицы и цен создаст условия для нормальной работы предприятий. Но её стабилизация требует признания в качестве товара земли и средств производства.

Структурная ценовая реформа позволит установить соотношение цен по группам товаров и внутри групп. Общество должно ценить то, что ценится на общемировом рынке. Нельзя рассчитывать получать по низким или льготным ценам ресурсы и товары с Востока или с Запада. Этого не будет. Если будет продолжена стратегия низких цен – то это будет большой ошибкой, и в последующем вообще не останется времени для разворота. И так уже упущено как минимум два года, и дальнейшее промедление невозможно.

В этом смысле очень важна позиция Национального банка, четкое определение его функций, роль коммерческих банков. Ещё следует признать (это отдельная тема): кредиты – это капитал, и мы не можем согласиться, чтобы кредиты, как капитал, разбазаривались.

Вопрос об экономическом союзе. Уже можно подвести итоги. Было достаточно подписано всяческих договоров и по количеству, и по полноте охвата вопросов, но они не работают. Посмотрите на ситуацию в Российской Федерации. Сколько ещё ждать стабилизации в других странах и не проводить самостоятельной политики? А если так будет продолжаться ещё несколько лет, что делать Республике Беларусь? Ждать? Нельзя ждать, нужно работать самим.

Тут звучало выступление уважаемого В.И.Гончарова, который сказал о том, что военно-промышленный комплекс – это кормилец народов. Те, кто делал боевые системы для поддержания, например, военной концепции по захвату Западной Европы, для управления фронтами и так далее – не кормильцы! Это как раз те, кто работал на налогах, которые собирались со всех других.

Уважаемый генеральный директор МАЗа Лавринович здесь сказал о том, что США предоставили режим наибольшего благоприятствования Беларуси, а Российская Федерация – нет. Так что режим наибольшего благоприятствования не зависит от того, будет ли заключен военный союз и общая финансовая система. Очевидно, здесь проблема в другом. Военные заказы, которые здесь ратуют сохранить, чтобы поддержать часть нашей экономики, требуют военного бюджета таких же размеров, как и прежде. И мы дойдём до того, что 55% бюджета будет тратиться на войну. Мы этого хотим? А загрузка военно-промышленного комплекса необходима не только в Беларуси, она необходима и в России, и на Украине, и в Казахстане.

Таким образом, предлагается то же, что и было раньше – ностальгия по прежнему порядку. Но этот путь не подходит. Нам необходимо остановить траты. Поэтому необходимо менять функции правительства, менять его структуру и менять лиц, которые не в состоянии проводить самостоятельную политику.

30 сакавіка 1993 г.

# А ТАК ВЫСТУПАЛА КАМУНІСТЫЧНАЯ БОЛЬШАСЬЦЬ

## МІКАЛАЙ ЛАКЦЮШЫН

**Беларуская арганізацыя вэтэранаў вайны і працы**

*Уважаемые народные депутаты! Уважаемое наше Правительство! Заслушав доклад Председателя Верховного Совета и Председателя Совета Министров, нам многое стало ясно и многое неясно. Мы больше говорим о следствиях, чем о причинах, породивших это положение. А ведь каждый гражданин нашей республики – от самого простого до занимающего высокий пост – понимает, что всему причина – это развал Союза. И, товарищ Трусов, не разводи руками.*

*... И на сегодняшний день все говорят о "незалежнасьці" Беларуси. Скажите, пожалуйста, кто претендовал на "незалежнасьць" республики? У нее была своя Конституция, свой Верховный Совет, свое Правительство. Она член Организации Объединенных Наций; неоднократно, начиная со Сталина, поднимались вопросы о том, чтобы поднять национальную культуру в республиках, в том числе речь шла и об языках. Никто не зажимал, а наоборот, говорили, что надо поднимать эти вопросы. Но сейчас все это утрируется и преподносится в другом виде. А все это делается не без ведома вы знаете кого. И в 1986 году создан Институт Крибла, который вы знаете на кого работает. Помолчите, Трусов, мы знаем, что это вас касается. (Шум у зале).*

*Беда в том, что развалился Союз. В результате борьбы отдельных лиц, таких, как Горбачев, Ельцин, личных своих амбиций, для того, чтобы Горбачева устранить от власти, пожертвовали Союзом. Вот к этому мы сегодня и пришли. А потом подхватили этот вопрос в Вискулях ...*

*... А ведь разве может экономический союз быть без союза об коллективной безопасности? ...*

*... Мы все прекрасно понимаем, что депутатский корпус и часть нашего населения "клюет" на те дешевые посылки, которые нам обещают – создать какой-то мистический регион – Прибалтика, Беларусь, Кавказ вплоть до Турции. Эти мечтания несбыточные. И хотят разорвать православный народ, православную веру, соединить с католиками, на что народ никогда не пойдет и не позволит это сделать. Поэтому выбросьте, товарищ Трусов ...*

*... В настоящее время оппозиция ополчилась на наше Правительство, в том числе на Вячеслава Францевича. Это единственный человек, который стоит на земле реально и понимает положение дел, возглавляет Правительство. И мы не знаем, до чего бы мы докатились, если бы он не был во главе нашего Правительства. Они видят, что это главная причина на их пути, они сейчас весь огонь обрушили на него. Но ведь люди, население, понимают, кто есть кто на сегодняшний день.*

*...А нужно действовать так, как подсказывает народ. Промышленники выступают, работники сельского хозяйства говорят о наболевшем. А они опять о продаже земли ведут речь, а не о том, что нужно... о языке... От того, что, товарищ Трусов, сейчас в войсках будут говорить на белорусском языке, от этого горючего в самолетах не прибавится, и колбасы не будет... Правильно выступает Правительство.*




Малюнак Кастуся Кіпеня

НАВІНЫ Беларускага Народнага Фронту "АДРАДЖЭНЬНЕ"
Заснавальнік Зянон Пазьняк
Індэкс 63895
Ліцэнзія №67
Адрас рэдакцыі: г.Менск, Рабкораўскі зав., 14. "Навіны БНФ"

Падпісана да друку 25 красавіка 1993 г.
Наклад 20 000 ас.
Надрукавана ў Магілеўскай абласной друкарні
Галоўны рэдактар Зьдзіслаў Сіцько